ПАРАЛЕЛІ

## У Вялікабрытаніі прадукты каштуюць танней, чым у Беларусі?

*Такая выснова напрошваецца сама сабой: беларусы ўжо не першы год ездзяць на шопінг, у тым ліку і прадуктовы, у Літву. Таму што ў вільнюскіх крамах многія тавары каштуюць значна танней, чым у беларускіх. А літоўцы пішуць, што англічане за прадукты плацяць яшчэ менш, чым яны...*

"У еўрапейскіх краінах з больш высокім пражытачным узроўнем — напрыклад, у Вялікабрытаніі — многія прадукты харчавання каштуюць столькі ж або танней, чым у Літве. Міністр сельскай гаспадаркі Літвы Казіс Старкявічус вінаваціць у гэтым недастатковую канкурэнцыю, а гандляры і перапрацоўшчыкі — падатковую базу і адзін аднаго, паведамляе тэлеперадача на ТВ-3 "Каментарый тыдня", — *паведамляе ru.DELFI.lt* — Цэны на харчаванне ў краінах Балтыі ў апошнія гады раслі хутчэй, а цяпер за прадукты мы плацім больш, чым жыхары многіх больш заможных еўрапейскіх краін. Асабліва ў Літве за апошнія пяць гадоў паднажэлі мяса, малако, неалкагольныя напоі. "Адзіная катэгорыя прадуктаў, якія ўмерана таннелі, гэта гародніна і садавіна", — сказаў эксперт у галіне рознічнага гандлю Юстас Гавенас. — А англічане за кураціну і свініну плацяць на 4 літы за кілаграм менш, чым літоўцы, за малако на 1 літ менш, а кілаграм хлеба ў Англіі танней на 2 літы. Акрамя таго, літоўскія кошты падобныя на дацкія, дзе вельмі высокія падаткі".

Дарэчы, розніца ў цэнах тлумачыцца проста: у Літве адзін з самых высокіх падаткаў на дабаўленую вартасць у ЕС.

**Вера ВІР.**

## Максімум адказнасці за мінімальны заробак

*На Брэсцкай біржы працы колькасць вакансій медсястры пераваліла за сто.*

Толькі адна медыцынская ўстанова абласнога цэнтра шукае 26 спецыялістаў.

Увогуле ў Брэсце не хапае 49 дактароў рознага профілю. А па Брэсцкай вобласці не хапае 718 медыкаў-спецыялістаў. Самая складаная сітуацыя ў нядаўна адрамантаванай абласной бальніцы. Там не хапае адразу 47 медсясцёр! Нагоду для такога кадравага дэфіцыту доўга шукаць не прыходзіцца: аклад медсястры — 1 мільён рублёў, ці адна мінімалка...

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Рак сэрца ўжо рэальнасць

*У Беларусі ўпершыню прайшла аперацыя па выдаленні злаякаснай пухліны сэрца. Пацыентам стаў 20-гадовы хлопец.*

Пра гэта паведаміў галоўны кардыяхірург Міністэрства аховы здароўя **Юрый Астроўскі.**

Аперацыя прайшла ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры "Кардыялогія". Звярнуцца да радыкальных метадаў лекары былі вымушаныя з-за вялікіх памераў пухліны — каля 6 см у дыяметры. Пухліна пашкодзіла перадсэрдзе, а таксама закранула мітральны клапан, які кардыяхірургі замянілі.

Адначасова калегі з Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі, медыцынскай радыялогіі ім.Аляксандрава выразалі пашкоджаныя ракам тканіны з груднай клеткі.

Аперацыя заняла каля чатырох гадзін. Цяпер малады чалавек адчувае сябе добра, яго ўжо выпісалі. У далейшым ён будзе знаходзіцца пад наглядам анколагаў.

Злаякасныя пухліны сэрца складаюць прыкладна адну сотую ад усіх пухлін, якія вядомы медыцыне, адзначыў прафесар, хірург таракальнага аддзялення анкапаталогіі РНПЦ анкалогіі і медрадыялогіі **Уладзімір Жаркоў**, які кіраваў падчас аперацыі брыгадай анколагаў.

АФІЦЫЙНА

## У Мінску можа з'явіцца музей Васіля Быкава

*Пра гэта паведаміў намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі.*

Ён выказаў спадзяванне, што гэтая перспектыва не расцягнецца на дзесяцігоддзі. Для гэтага трэба дакладна вывучыць літаратурную спадчыну пісьменніка, сабраць дастатковую колькасць музейных рэчаў і знайсці адпаведнае памяшканне.

СКАНДАЛ

# Мітусня на мяжы

На беларуска-польскай мяжы зноў скандал. Шасцёра польскіх дэпутатаў з камісіі па кантактах з польскай дыяспарай сейма накіроўваліся ў Гродна, каб сустрэцца з актывістамі беларускага Саюза палякаў, але іх у нашу краіну не ўпусцілі.

Вось як апісвае падзеі адна з найбольш буйных польскіх газет „Rzeczpospolita". "Беларускія памежнікі сабралі дыпламатычныя пашпарты ў дэпутатаў, 30 хвілін пратрымалі іх на мяжы, пасля чаго паставілі ў пашпарты штампы з забаронай на ўезд. Без тлумачэння прычын".

Дарэчы, польскіх дэпутатаў не першы раз не ўпускаюць у Беларусь. У ліпені мінулага года не ўпусцілі дэпутата Лёнгіна Камалоўскага (адначасова з'яўляецца старшынёй таварыства „Wspolnota Polska"), які ехаў у Гродна на святкаванне ўгодкаў акцыі Арміі Краёвай „Вострая Брама". Разам з ім ехаў дэпутат Роберт Тышкевіч, якога таксама не ўпусцілі. У жніўні ў Беларусь не змог уехаць еўрадэпутат Марэк Мігальскі, які ехаў у Мінск на сустрэчу са сваякамі рэпрэсаваных апазіцыянераў. Не пусцілі ў Беларусь і старшыню Саюза беларусаў Польшчы Яўгена Вапу, які не з'яўляецца палітыкам...

На думку польскіх палітычных аглядальнікаў, *"беларускі рэжым пачаў чарговы этап вайны з асабістымі ворагамі Лукашэнкі, якую вядзе на двух франтах. „Першы беларускі фронт" — гэта барацьба ўнутры краіны з апазіцыяй і грамадзянскай супольнасцю. „Другі беларускі фронт" накіраваны на Захад, а Польшча знаходзіцца бліжэй за ўсіх".*

Больш таго, на думку польскіх экспертаў, афіцыйнаму Мінску выгадна трымаць краіну ў „вайсковых умовах", паколькі такім чынам найлягчэй можна апраўдаць усе ўнутраныя грамадскія і эканамічныя праблемы.

### Тлумачэнні Мінска

Намеснік начальніка Упраўлення інфармацыі — начальнік аддзела прэс-службы МЗС Беларусі **Марыя Ваньшына** выступіла з наступным каментарыем у сувязі з інцыдэнтам:

*"Беларускі бок зыходзіць з агульнапрынятай практыкі міжнародных адносін, згодна з якой парламенцкі дыялог паміж дзяржавамі ажыццяўляецца на ўзаемапаважлівай і раўнапраўнай аснове. Ажыццяўленне візіту парламенцкай дэлегацыі прадугледжвае наяўнасць адпаведнага запрашэння ад парламентарыяў краіны прызначэння — у дадзеным выпадку Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Разам з тым польскія парламентарыі запланавалі свой візіт у Беларусь, грэбуючы не толькі ўзаемадзеяннем са сваімі беларускімі калегамі, але і без якога-небудзь папярэдняга паведамлення беларускаму боку.*

*У сувязі з гэтым узнікае пытанне: якія пазітыў для двухбаковых адносін Беларусі і Польшчы могуць прынесці падобныя "канспіратыўныя" візіты, арганізацыя якіх відавочна топча прынцыпы ўзаемнага даверу, адкрытасці і добрасуседства?"*

### Адказ Варшавы

Камісія польскага сейма па сувязях з палякамі замежжа рыхтуе запыты аб дзейнасці беларускіх парламентарыяў на тэрыторыі Польшчы.

*"Мы запытаем інфармацыю на гэтую тэму ў МЗС і прысвяцім гэтаму пасяджэнне камісіі",* — паведаміў старшыня камісіі Адам Ліпіньскі. Ён падкрэсліў, што *"з боку польскага МЗС павінна быць адпаведная рэакцыя на апошні інцыдэнт".*

МЗС Польшчы заявіў, што забарона на ўезд у Беларусь для польскіх дэпутатаў упісваецца ў *"практыку недэмакратычнай беларускай дзяржавы".*

**Ігар МАРОЗАЎ.**

НУ И НУ!

## Глупые и наивные

*Небывалый случай в столице: за два дня аферистка смогла обмануть около десяти человек, которые хотели снять дешевое жилье.*

Схема обмана была примитивной. Мошенница сняла квартиру на сутки в новом доме на улице Притыцкого. Потом разместила в интернете объявление примерно такого содержания: "Сдаю однокомнатную квартиру в хорошем районе на длительный срок за 160 у.е. в месяц". Желающие получить "однушку" по такой цене нашлись быстро. К гражданке выстроилась очередь из потенциальных квартиросъемщиков.

— Подозреваемая приехала из Витебска, нашла квартиру, разместила объявление и назначила людям встречу. Потом уехала домой. Вернулась, снова сняла квартиру на несколько часов и устроила арендаторам прием, — рассказала Алла Голубович, пресс-офицер Фрунзенского РУВД. — За первый день гражданка приняла 6 человек, за второй — как минимум двух. Хотя список потерпевших, скорее всего, будет расти.

С каждого человека мошенница взяла по 160 долларов в качестве предоплаты, каждого попросила чуть повременить с заселением. Милиционеров весьма удивила беспечность потерпевших — никто из них не попросил показать ни документов на квартиру, ни даже паспорта.

Одна из потенциальных квартиросъемщиц случайным образом все же узнала, что жилье, за которое она заплатила, обычно сдается на сутки. Так обман и раскрылся. Выяснилось, что в послужном списке подозреваемой уже есть подобные аферы. В родном Витебске она умудрилась сдать одну квартиру сразу 25 съемщикам.

КРЫМІНАЛ

## У Мазыры самазабойца скокнуў з моста і застаўся жывы

*44-гадовы мужчына здзейсніў спробу суіцыду на вачах у шматлікіх сведак.*

Яны выклікалі выратавальнікаў, "хуткую" і міліцыю. Мужчына ўпаў на лёд і атрымаў сур'ёзныя траўмы, яго шпіталізавалі, паведамляе тэлеканал "Мозырь".

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Дыямент у кароне...

*Ці стане ён — Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» (перадусім былы Радзівілаўскі замак) — турыстычнай Мекай і адначасова гісторыка-асветным цэнтрам для ўсіх беларусаў?..*



Сёлета Нясвіж прызначаны чарговай культурнай сталіцай Беларусі... І гэта цалкам апраўдана, паколькі ў кароне іншых гарадоўпомнікаў Нясвіж — дыямент невыказнай красы, горад, які, па словах Адама Кіркора, *"сваім багаццем, бляскам, непаўторнасцю, назапашанай разнастайнасцю выбітных твораў навукі і мастацтва не толькі быў першым у цэлай Літоўскай Русі (цяперашняй Беларусі. — **Аўт.**), але і пераўзыходзіў у многім шматлікія другарадныя сталіцы..."* Цягам часу незлічоныя каштоўнасці былі разрабаваны, расцягнуты-раскрадзены, аселі ў шматлікіх прыватных калекцыях і дзяржаўных музеях іншых краін. Толькі набыўшы дзяржаўнасць, беларусы пачалі асэнсоўваць страчанае, усведамляць, што і яны людзі, а не толькі прыгонныя, халопы, парабкі...

Не забывайма, што матэрыяльна-культурная спадчыннасць хоць і была ўласнасцю магнатаў, але першародства яе — у поце і крыві звычайных людзей, тых самых дзядоў і прадзедаў, што гнулі спіны на мануфактурах і множылі багацці шматлікіх арыстакратычных родаў, а такіх у сярэднявечнай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім — было досыць. Але цяжка знайсці сярод іх больш магутных і заможных, чым Радзівілы. Цяпер многія гатовы ледзь не абагаўляць Радзівілаў, іхны ўклад у станаўленне беларускага гаспадарства. На самай справе не ўсё тут ружова, як падаецца, інакш бы гісторыя не склалася так драматычна...

Да нашага часу нашчадкі роду Сапегаў, напрыклад, вінавацяць Радзівілаў, што тыя ўзялі бок Рэчы Паспалітай, выракліся свайго... І тут цяжка нешта аспрэчыць, як цяжка аспрэчыць і тое, што Радзівілы ў вялікай ступені еўрапеізавалі тагачаснае жыццё ВКЛ... Канечне, *"не разгулам, дзівацтвамі ды ўсялякімі празмернасцямі барскага жыцця"*, як пісаў Адам Кіркор, *"але сваім эстэтычным бокам, сваімі рэдкімі зборамі, кабінетамі, бібліятэкамі, архівам, карціннай галерэяй, тэатрам, урэшце самім жыццём, у якім паміж розных барскіх задумак было шмат вытанчанасці, гуманнасці, вышэйшых поглядаў і памкненняў, нарэшце нават самаадданасці".*

Пра самаадданасць і слугаванне Бацькаўшчыне ўсімі без выключэння радзівіламі казаць рызыкоўна, паколькі далёка не ўсе яны праведнікі... Але і той факт, што на працягу стагоддзяў з іх роду выйшлі больш сарака сенатараў, канцлераў, ваяводаў, кашталянаў, маршалкаў... І ўсе чатыры стагоддзі Радзівілаўскім родавым гняздом, магнацкай "сталіцай" нязменна заставаўся Нясвіж. Тут знаходзілася не толькі найбагацейшая ў Еўропе бібліятэка з велізарным архівам, які зберагаў так званую Літоўскую метрыку (архіў ВКЛ), але і карцінная галерэя з тысячамі твораў мастацтва. У самім жа горадзе дзейнічалі друкарні, прыдворны тэатр, шматлікія аркестры, капэлы, ствараліся оперы і балеты, збіраліся калекцыі зброі, манет, працавалі мастацка-прамысловыя мануфактуры. Здавалася, усяму гэтаму не будзе сконy, але страціўшы цэласнасць дзяржавы, беларусы, а з імі і Радзівілы, гублялі назапашанае вякамі...

### Што «приобщено к нашему»

Шведы — у 1706 годзе — першымі абрабавалі Нясвіжскі замак. Нягледзячы на гэта, па інвентары замка, які быў складзены ў 1770 г., у Нясвіжы на той час налічвалася 984 творы "на дрэве і палатне", больш за 20.000 тамоў кніг і рукапісаў. Зборы нумізматычнага кабінета складалі 13.252 адзінкі захоўвання. Вось як апісвае стан Нясвіжскага замка ў XVIII ст. вядомы расійскі даследчык В.Сямёнаў: *"Замок разделялся на 2 части — дворец и крепость; дворец состоял из 12 громадных залов, из которых каждый имел свое название. Здесь была кунсткамера с редкими произведениями искусств и художеств, арсенал с 84 щитами, 30 бронзовыми рыцарскими доспехами, большим количеством различных амуниций, охотничьих принадлежностей и ружей, затем хранилище древностей с гетманскими булавами, маршальскими посохами Радзивиллов, слитки серебра, найденные при раскопках в несвижской округе, нумизматическая коллекция, разные орнаменты и прочее".*

Але была ў Радзівілаў і іншая скарбніца. У родавым сховішчы знаходзілася большая частка сабранага Радзівіламі багацця. Так, рускі князь М.Рапнін, які суправаджаў у 1785 г. апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага на сейм у Гродна, у данясенні імператрыцы Кацярыне ІІ пісаў: *"Король заехал к К.С.Радзивиллу в Несвиж. После блестящего фейерверка и обеда на 300 персон король спустился в подземелье — фамильную сокровищницу. Он увидел слитки золота, сложенные до самого свода. Золота было сотни пудов, множество золотых вещей да 12 апостолов из этого металла и серебра, усыпанных драгоценными камнями".*

Адам Чартарыйскі, былы міністр замежных спраў Расійскай імперыі, таксама не абмінуў узгадаць Нясвіж. У сваіх мемуарах ён напіша, што ў 18 залах Нясвіжскага замка сабрана каштоўнасцяў больш як на 5 або 10 мільёнаў дукатаў. Сярод іншых скарбаў прыгадвае Чартарыйскі і калекцыю з 12 апосталаў, пяць з якіх выраблены з чыстага золата. Пра 12 залатых евангелістаў прыгадае ў сваіх успамінах і Міхаіл Агінскі, а таксама Уладзіслаў Сыракомля. Успамінаюць пра радзівілаўскую скарбніцу таксама А.Кіркор і П.Шпілеўскі.

Значныя страты замак панёс і пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. Яшчэ ў кастрычніку 1770 г. Нясвіжскі замак занялі расійскія войскі пад камандаваннем генерал-маёра В.А.Кара. Найбольш каштоўную частку скарбаў, твораў старажытнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — зброю, вырабы з золата, срэбра і каштоўных камянёў — адправілі ў Пецярбург, частку — у Смаленск. Быў адабраны і вывезены, а часткова патоплены арсенал замка. Радзівілаўская бібліятэка па загадзе Кацярыны ІІ была дастаўлена А.Бібікавым у Санкт-Пецярбург і перададзена ў веданне імператарскай Акадэміі навук. Былі канфіскаваны 14.892 кнігі, якія займалі 96 скрыняў (без уліку гравюр, планаў і нот), і размешчаны ў цэнтральнай частцы Кунсткамеры. Тут у 34 шафах бібліятэка Радзівілаў захоўвалася на працягу ўсяго XVIII ст. як асобная калекцыя. З нагоды тае бібліятэкар Бакмейстар напіша: "*Полученное библиотекою в 1772 г. другое приращение, о котором никак умолчать не можно, превосходит все преждеупомянутые. Многочисленные собрания книг, хранимые в то время в Несвиже, что в Литовском княжестве, привезено и приобщено к нашему".*

Пасля канфіскацыі маёмасці ў 1772 г. Радзівілы зноў запоўнілі сваю скарбніцу каштоўнасцямі. Новыя рабункі адбыліся ў Нясвіжскім замку ў канцы кастрычніка 1812 года. Але перад тым (у 1790 г.), акурат пасля смерці Караля Станіслава Радзівіла — Пане Каханку, адзінаццатым ардынатарам нясвіжскім стаў яго пляменнік Дамінік Радзівіл (1786—1813). Палымяны патрыёт, як большасць моладзі таго часу, Дамінік марыў аб адраджэнні Рэчы Паспалітай і звязваў свае надзеі з постаццю Напалеона. У 1812 г. Дамінік падпісаў акт Галоўнай канфедэрацыі, пасля чаго прыняў актыўны ўдзел у паходзе французаў на Расію. Дамінік быў мужным чалавекам, але не без карысці для сябе. А можа, папросту ратаваў сваё... Усе даследчыкі аднадушна сцвярджаюць, што Дамінік загадаў пагрузіць на абозы найбольш каштоўную маёмасць і адправіць яе з Нясвіжа ў Вільню. 30 кастрычніка Нясвіж заняў корпус генерала С.Тучкова. Распачаў жа рабаванне радзівілаўскіх калекцый у той трагічны год генерал К.Кнорынг, які забраў з замка старажытныя дываны, гадзіннікі, антычныя творы, музычныя інструменты, адзенне. А пасля ўжо ягоную справу прадоўжыў і сам генерал С.Тучкоў, якому засталіся яшчэ *"розныя брыльянты, срэбныя і залатыя вырабы, а таксама іншыя рэчы"*. Пасля да іх далучыўся адмірал П.Чычагаў. У Пецярбург было вывезена 11 скрыняў радзівілаўскіх багаццяў. У тым ліку меч і капялюш з перламі караля Яна III Сабескага, падараваны апошняму Папам Рымскім Інакенціем XI. Вывезлі таксама фарфор, творы еўрапейскага жывапісу, зброю, рыцарскія даспехі, нумізматычную калекцыю. У студзені 1813 г. адмірал П.Чычагаў загадаў размеркаваць частку скарбу, нарабаванага ў Нясвіжскім замку, паміж рознымі асобамі і ўстановамі. Старажытныя медалі і манеты былі перададзены Харкаўскаму ўніверсітэту, царкоўныя рэчы адпраўлены ва Успенскі сабор у Маскве. *"Самые редкости и древности"* паступілі ў распараджэнне саветніка Д.Валуева. *"Все прочия"* П.Чычагаў загадаў выставіць на аўкцыён. Па сведчанні кіраўніка замка А.Бургельскага, праз месяц Тучкоў зноў прыехаў у Нясвіж і ўчыніў чарговае рабаўніцтва. Ён браў усё, што знайшлося ў сховішчах, — дываны, зброю, даспехі, паляўнічыя стрэльбы, люстэркі, карэты, "обитие" са сцен, нават фіранкі з вокнаў. Усяго было нарабавана на 10 мільёнаў польскіх злотых...

Радзівілаўскія багацці, якія засталіся без пільнага гаспадара, працягвалі раскрадаць і далей. Граф Людвіг Леан Вітгенштэйн, які быў жанаты на дачцэ Дамініка Радзівіла Стэфаніі, перавёз у маёнтак Веркі пад Вільняй рыцарскія даспехі. Калекцыю заходнееўрапейскага жывапісу забралі да сябе ў Прусію Радзівілы па прускай лініі.

Толькі ў 1875 г. Антоній Фрыдэрык Радзівіл (1833—1904), ардынатар нясвіжскі, клецкі і давыдгарадоцкі, вырашыў разам з жонкай Марыяй Даратэяй пераехаць з Прусіі ў Нясвіж на пастаяннае месца жыхарства. З тае часіны і пачынаюцца планамерныя работы па рэстаўрацыі замка. А зрабіць трэба было вельмі шмат...

Вось як апісваў стан замка тае пары Уладзіслаў Сыракомля, вядомы дзеяч беларускай і польскай літаратуры, які служыў у Антонія Радзівіла сакратаром: *"У некаторых залах на сценах, абабітых некалі багатымі дыванамі ці аздобленых ад столі да падлогі суцэльнымі люстэркамі, чаго цяпер і следу не засталося, раскіданы там-сям старажытныя карціны, іх больш за ўсё на чацвёртым паверсе ў асобнай зале, названай сёння гучна Карціннай галерэяй. Сэрца сціскаецца, калі глядзіш на многія з тых карцін, асабліва калі зойдзеш у галерэю, дзе выдатныя палотны, каштоўныя і з боку мастацкай вартасці, і як дарагія памяткі, што захавалі для нас вобразы гістарычных асоб, старасвецкія ўборы альбо асобныя падзеі мінулага, — без парадку, без рам, без надпісаў вісяць на сцяне, чакаючы лепшых часоў, альбо, разасланыя на падлозе, марнеюць на нашых вачах, аблазяць, абвяшчаючы аб хуткай сваёй гібелі".*

У 1905 годзе, пасля смерці Антонія Радзівіла, Марыя Даратэя распачала справу вяртання нясвіжскіх скарбаў, якія былі перавезены ў Пецярбург у 1812 годзе...

Радзівілам найперш неабходна было даказаць, што гэта менавіта тыя рэчы, якія належалі княжацкай фаміліі. Для доказу былі прадстаўлены копіі нясвіжскіх інвентароў, выкарыстаны дакументы, данясенні, даклады, складзены новыя рэестры ў самім Эрмітажы. Згодна з імі, упаўнаважанаму прадстаўніку княгіні Марыі Даратэі Радзівіл доктару Б.Пульяноўскаму былі перададзены экспанаты пад 48-ю нумарамі. І гэта былі далёка не ўсе рэчы, вывезеныя ў 1812 г., але ўсё ж такі тое вяртанне стала маленькай асабістай перамогай Марыі Даратэі.

У 1904 г. чарговым ардынатарам нясвіжскім стаў сын Антонія Фрыдэрыка Ежы (1860—1914), а самым апошнім ардынатарам нясвіжскім быў яго сын Альбрэхт Радзівіл (1885—1935), больш вядомы як князь Аба. Знакаміты палітычны і грамадскі дзеяч Польшчы, ён нейкі час падтрымліваў Юзэфа Пілсудскага, той нават наведаў Нясвіж у кастрычніку 1926 года... Але вернемся крышку назад, у той час, калі Еўропу апанавала Першая сусветная... Як ні дзіўна, але Нясвіж падчас сусветнай бойні амаль не пацярпеў: ні аўстрыякі, ні венгры, ні палякі, ні расійскія войскі (карнілаўцы), якія ў розныя часы кватаравалі ў замку, амаль нічога не скралі. Затое на пачатку 1919 г. у Нясвіж прыйшла савецкая ўлада, і гаспадаром у замку стаў таварыш... Салдатаў.

### Рабуй нарабаванае?

Было ўстаноўлена, што падчас гаспадарання таварыша Салдатава з замка зніклі *"ўсе каштоўнасці, неацэнныя рэчы мастацтва, цудоўныя габелены ды іншыя скарбы, якія не маюць кошту"*. Следчая камісія так і не даведалася, куды падзеліся нясвіжскія каштоўнасці. Хоць "товарищ" Салдатаў і яго спадручнікі панеслі заслужаную кару, *"але разрабаваныя скарбы засталіся неадшуканымі"*. Праўда, у 1928 г. савецкі ўрад — згодна з артыкулам 11 Рыжскай дамовы 1921 г. — перадаў Польшчы частку нясвіжскіх рэчаў, вывезеных у Расію ў 1792-м і 1812 гадах. Але тыя ж мастацкія рэчы ў 1939 г. былі наноў разрабаваны — не ўсе, праўда, а часткова. Астатняе было перададзена розным савецкім установам. У архівах захаваліся канцылярскія справаздачы, складзеныя камісарамі падчас рэквізіцыі панскай маёмасці. Канечне, яны наўрад ці поўныя, бо рабіліся па гарачых слядах вызваліцеляў, да ўсяго ж чырвонаармейцы, гэтаксама як і тутэйшыя месцічы, якія не грэбавалі чужым, скарысталіся момантам... Каб мець уяўленне, што было ў замку на момант яго захопу, варта прыгадаць напісанае Валянцінам Катаевым у газеце "Правда". Тады Катаеў быў уласным карэспандэнтам у нашым краі і ўдзельнічаў у вызвольным паходзе. Уладкаваўшыся ў машыне сакратара ЦК КПБ Панцеляймона Панамарэнкі, ён калясіў з ім па толькі што вызваленай тэрыторыі. Вось як ён апісваў у сваім "праўдзінскім" эсэ ўбачанае:

*"Мы папрасілі яго (кіраўніка Радзівілаўскага замка. — **Аўт.**) паказаць нам замак. Ён яшчэ раз пакланіўся і павёў нас па залах. Мы моўчкі ішлі за ім, дзівячыся велічынёй, колькасцю і багаццем панскіх пакояў. Кожны пакой быў велічынёй з актавую залу. Асабліва кідалася ў вочы тое, што паўсюль сцены былі бялёныя. Іх грубая, нават, я б сказаў, казарменная бель падкрэслівала багацце мэблі, паркетаў, складзеных з мноства каштоўных гатункаў дрэва — чырвонага, чорнага, цытрынавага, масіўных паліраваных дзвярэй, велічэзных люстэркаў у тонкіх залатых рамах.*

*Мы ўбачылі кабінет князя з доўгім сталом пасярэдзіне. За гэтым сталом свабодна магло б змясціцца пяцьдзясят чалавек. Стол быў пакрыты каштоўнымі абрусамі і вышыўкамі. На ім стаялі кветкі, вазы, кнігі, мініяцюры і сучасныя сямейныя фатаграфіі. Было параскідвана мноства французскіх і амерыканскіх ілюстраваных часопісаў за ліпень, жнівень і нават верасень месяц гэтага фатальнага для гаспадароў года.*

*Мы бачылі грандыёзную паляўнічую залу, засланую шкурамі мядзведзяў, ваўкоў, лісіц. На доўгіх сталах была раскладзена паляўнічая зброя — пісталеты, мушкетоны, кінжалы, сучасныя штуцэры, вінтоўкі. На сценах віселі ў мностве рогі аленяў і ласёў. Складзеныя парамі вепруковыя іклы былі ў залатой аправе і віселі на залатых ланцужках, як маленькія касцяныя хамуцікі. Пад кожнай парай іклаў быў надпіс. Усе гэтыя рогі і іклы атрымалі "Гран пры" на нейкай арыстакратычнай паляўнічай выставе ў Парыжы. Тут жа быў уладкаваны хатні цір, дзе на чорным фоне віднеліся белыя зайцы і алені.*

*Затым мы агледзелі рыцарскую залу, поўную рыцарскіх даспехаў —- шлемаў, нагруднікаў. Шэраг рыцараў стаялі ўздоўж белых сцен, пабліскваючы цьмяным срэбрам і золатам. Стаялі цэлыя рыцары — коннікі ў даспехах, аздобленых страўсавымі пер'ямі...".*

Як жа распарадзілася савецкая ўлада неацэннымі радзівілаўскімі рэчамі?

Паводле пастановы ЦК КП(б)Б замак (перад вайной) перайшоў да аўтадарожнага тэхнікума, бібліятэка і архіў перададзены Акадэміі навук БССР, 264 карціны (з іх 84 партрэты Радзівілаў), слуцкія паясы, мэбля — Дзяржаўнай карціннай галерэі ў Мінску, гарматы, даспехі XVI ст., калекцыя зброі — Беларускаму дзяржаўнаму музею і кінастудыі "Савецкая Беларусь", экспанаты паляўнічай залы — Беластоцкаму дзяржаўнаму музею, касцюмы — Дзяржаўнаму тэатру оперы і балета Беларусі.

Частка нясвіжскіх калекцый вельмі спадабалася расійскім навукоўцам. Так, у 1940 годзе экспедыцыя Гістарычнага музея ў Маскве забрала з Нясвіжскага замка слуцкія паясы, карціны, "цудоўнай работы крэсла з косці рагоў аленя". Частка архіва і бібліятэка, памер якой вызначылі не па колькасці адзінак захоўвання, а па вазе — 60 тон, была перададзена ў АН БССР. Нешта было прададзена праз "дзяржаўны" гандаль. Падчас вайны фашысты вывезлі ў Германію карціны з нясвіжскай галерэі, якія перад вайной захоўваліся ў мінскіх музеях. Частка іх — ужо пасля вайны — была расшукана і вернута ў Мінск, хаця і ў пашкоджаным выглядзе. А вось жывапісныя партрэты князёў акazaліся... незапатрабаванымі, і таму ў 1950 г. 63 палотны былі перададзены Музею Нарадоваму ў Варшаве. Радзівілаўскі архіў з Германіі вярнулі ў Нацыянальны архіў БССР, а кнігі — у акадэмічную бібліятэку... Але ўсё гэта — драбніца ад таго, што было раней і што разышлося па ўсім свеце...

На працягу стагоддзяў Нясвіжскі замак перажыў досыць узлётаў і падзенняў, войнаў і пажараў, незлічоных рабаўніцтваў з боку шведаў, германцаў, рускіх... Вакол яго ўладароў склалася мноства легенд і паданняў. Княжацкі замак быццам кажа нам: мяне раскрадалі, рабавалі, спустошвалі, але ж вытрываў, сцярпеў усё. Гэтак і з самімі беларусамі: вытрывалі і сцярпелі ўсе навалы. Цяпер і дзяржаўнасць можна парадкаваць: падмурак і самі муры — векавыя, моцныя, як сцены і бастыёны Радзівілаўскага замка. А што начынне яго пакуль небагатае — замкавае і дзяржаўнае — дык гэта справа нажыўная. У замак пакрысе вяртаюцца ягоныя рэчы, і сам ён быццам памаладзеў пасля рэстаўрацыі. Цяпер сюды едуць з многіх куткоў не тое што Беларусі, але з усяе Еўропы... Летась амаль 200 тысяч турыстаў пабывалі... І там — сведчу — ёсць на што падзівіцца. Але пра гэта ў наступнай публікацыі...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

## Кости для пенсионеров

Уже стало правилом для пенсионеров г.Борисова с утра, с 7—8 часов, занимать очередь за костями, которые продают в магазинах, принадлежащих местному мясокомбинату.

Я тоже заняла очередь. Хотя был мороз, но есть-то надо, а магазин не был открыт. Придешь позже — костей уже не будет.

В 9-м часу разгрузили автомашину с мясными припасами, и все бросились покупать суповые наборы. На дорогую колбасу и мясо никто не обратил внимания.

Я купила два килограмма костей по цене около десяти тысяч за килограмм. Когда принесла домой, развернула и всмотрелась, то обнаружила, что мясные остатки на костях почти отсутствуют, все обрезано наголо.

Кости эти после супа, если что-то остается, выбрасываем собакам, которых в мороз чем-то надо кормить. Так что двойная польза.

**Мария ЛАДА.**

*г.Борисов.*



З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

## Трэба ведаць Божае слова

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

Я рэгулярны падпісчык "Народнай Волі". Уважліва чытаю яе і амаль у кожным нумары знаходжу матэрыялы аб злачынствах, якія адбываюцца ў нашай краіне.

Мяне асабіста хвалюе тое, што сярод парушальнікаў законаў усё больш і больш чыноўнікаў дзяржаўных структур.

Цвёрда перакананы, што калі б нашы людзі ведалі Боскія запаведзі — законы, па якіх наканавана жыць чалавецтву, то колькасць злачынстваў з году ў год памяншалася б. Адначасова паляпшаўся б дабрабыт грамадзян.

Бяда ў тым, што большасць народа аб іх не ведае, а тыя, хто штосьці чуў аб іх, не разумеюць іх зместу. Такое знаёмства для кожнага вельмі і вельмі неабходна: вымушае задумацца не толькі аб асабістай адказнасці, але і аб адказнасці нашчадкаў.

Просьба: змясціце прапанаваныя мною Боскія запаведзі на старонках "Народнай Волі".

**Аляксандр Сафронавіч ДОЎБІК,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

*в.Жухавічы Карэліцкага раёна.*

### Заповеди Божьи

**1.** Я Господь, Бог твой, Который вывел тебя из земли Египетской, из дома рабства; да не будет у тебя других богов перед лицом Моим.

**2.** Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху, и что на земле внизу, и что в воде ниже земли; не поклоняйся им и не служи им, ибо Я Господь, Бог твой, Бог ревнитель, наказывающий детей за вину отцов до третьего и четвертого рода, ненавидящих Меня, и творящий милость до тысячи родов любящим меня и соблюдающим заповеди Мои.

**3.** Не произноси имени Господа, Бога твоего, напрасно, ибо Господь не оставит без наказания того, кто произносит имя Его напрасно.

**4.** Помни день субботний, чтобы святить его; шесть дней работай и делай в них всякие дела твои, а день седьмой — Господу, Богу твоему.

**5.** Почитай отца твоего и мать твою, чтобы тебе было хорошо и чтобы продлились дни твои на земле, которую Господь, Бог твой, дает тебе.

**6.** Не убивай.

**7.** Не прелюбодействуй.

**8.** Не кради.

**9.** Не произноси ложного свидетельства на ближнего твоего.

**10.** Не желай дома ближнего твоего; не желай жены ближнего твоего, ни поля его, ни раба его, ни рабыни его, ни вола его, ни осла его, ни всякого скота его, ничего, что у ближнего твоего.

ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ

*Працягваем друкаваць лісты-ўспаміны зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, напісаныя ім за кратамі.*

*Алесь БЯЛЯЦКІ*

# Гарачая вясна 96-га

## (Навела №5)

1996 год быў, мабыць, самым трагічным годам у новай гісторыі Беларусі. Закладзеныя ў папярэднія гады праз кроў і пот дэмакратычных дэпутатаў ды шараговых актывістаў асновы нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы ламаліся-знішчаліся першым прэзідэнтам краіны. Горкі парадокс маладой беларускай дэмакратыі, якая, не паспеўшы нарадзіцца, ужо пачала з'ядаць саму сябе. Ідэя выбару прэзідэнта ўсеагульным галасаваннем у грамадстве, у якім цалкам адсутнічалі дэмакратычныя традыцыі і палітычная культура, была заганнаю і легкадумнаю. Збітыя з панталыку эканамічнымі цяжкасцямі і беднасцю, людзі ў 1994 годзе падтрымалі дэмагога з языком без костак, які абяцаў адрадзіць савецкія парадкі і вярнуць мінулую адносную стабільнасць. Ягоная праграма была пабудавана на вяртанні ў мінулае. І вось пад адхон паляцела беларускамоўная адукацыя, пад'ёмным кранам з будынка Дома ўрада была скінута "Пагоня", а ягонымі апрычнікамі падраны на шкамуты бел-чырвона-белы сцяг. Прэзідэнт бесцырымонна падцягваў пад сябе заканадаўчую ўладу і суды. Ён, як бязлітасны карны меч, біў па самых балючых месцах маладой беларускай дэмакратыі.

Выбары ў Вярхоўны Савет у 1995-м і давыбары ў 1996 гадах былі халодным душам для фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. З былых фронтаўцаў у новы кіраўнічы дзяржаўны орган не патрапіў ніхто. У гэты час палітычныя баталіі, якія раней праходзілі ў сценах Вярхоўнага Савета, выліліся на вуліцы.

Добра памятаю раніцу наступнага дня пасля збіцця дэпутатаў-фронтаўцаў у зале пасяджэнняў ВС. Мы, паўтара дзясятка чалавек, прыгаломшаныя навінаю, выйшлі з аркі з боку будынка Мінскага гарсавета на ходнік. Дэпутат Шут трымаў бела-чырвона-белы сцяг. Гэта быў выхад адчаю, бо адбылося штосьці мярзотнае і агіднае, тое, чаго проста не магло быць. Хутка падбеглі міліцыянты і пачалі выпіхваць нас у бок Галоўпаштамта. Я і Галіна Вашчанка, дэпутаты гарсавета, спрабавалі супраціўляцца, махалі нашымі дэпутацкімі пасведчаннямі, але нас не слухалі і працягвалі штурхаць. Насупраць мяне падскокваў, ярыўся невысокі і худы старшы лейтэнанцік у берэтцы і цяльняшцы, піхаў мяне ў грудзі і крычаў, што такіх ён душыў і душыць будзе. Я запомніў ягоную неўтаймаваную злосць, малады румянец на шчаках і потым назіраў за ягонай кар'ерай. А вось цяпер, седзячы на Валадарцы, убачыў яго ў тэленавінах — пагрузнелы, у неверагодна высокай фуражцы і ў палкоўнічых пагонах — атрымліваў ад Лукашэнкі прызначэнне на начальніка мінскай міліцыі.



Супраць рэферэндуму, супраць саюзных дамоў, супраць рэстаўрацыі таталітарнай сістэмы праходзілі шматлікія дэманстрацыі і пікеты. У 1995-м адбыўся першы, не заўважаны грамадствам палітычны судовы працэс. Судзілі аднаго з дэманстрантаў за бойку з міліцыянтамі. Ён быў асуджаны на год умоўна. Адміністрацыйныя пакаранні дажджом сыпаліся на актывістаў. Таму ўвесь 95-ы і палову 96-га года я, як дэпутат Мінскага гарсавета, быў заяўнікам масавых акцый. Суд не мог асудзіць мяне без дазволу гарсавета, а гарсавет, значную частку якога складалі дэмакратычныя дэпутаты, такога дазволу не даваў.

Некалькі такіх пікетаў запар мы ставілі насупраць расійскай амбасады, пратэстуючы супраць саюзных дамоў. Мяне, як арганізатара, забіралі ў міліцэйскі ўазік, везлі ў суд Цэнтральнага раёна, што знаходзіўся побач, на вуліцы Багдановіча. Там я даставаў дэпутацкае пасведчанне, і мяне адпускалі. І гэтак паўтаралася разоў пяць. Аднойчы нават суддзя пачала судовы працэс, але я ўсчаў крык, і яна адпусціла мяне. Пазней па пошце прыслалі судовае рашэнне, у якім мне выпісалі папярэджанне. Гэта было незаконна, але займацца абскарджваннем зусім не было часу — праходзілі наступныя і наступныя акцыі, якія забіралі ўсе сілы.

Мы з Вячаславам Сіўчыкам, будучы тады сакратарамі Управы БНФ, вадзілі калоны дэманстрантаў па праспекце Францішка Скарыны, абдурваючы міліцыянтаў, абыходзячы па дварах міліцэйскія ланцугі, якія перагароджвалі праспект. Гэта былі адчайныя спробы даступнымі і мірнымі сродкамі ўратаваць незалежнасць і дэмакратычныя заваёвы ранейшых часоў.

Вясна 1996 года была вельмі гарачаю. Шматлюдныя акцыі 15 сакавіка ў Дзень Канстытуцыі, 25 сакавіка ў Дзень Незалежнасці, 2 красавіка — супраць падпісання чарговай саюзнай дамовы і, урэшце, 26 красавіка — Чарнобыльскі Шлях літаральна скаланалі Мінск.

Пасля дэманстрацыі на 25 сакавіка, якая патрабавала прамога эфіру для дэмакратаў, была ўзбуджана крымінальная справа і пачалося паляванне на Зянона Пазьняка. Ён хаваўся.

На Чарнобыльскі Шлях сабралася некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Дэманстрацыя, якая ішла ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці, набрала сілу на плошчы Коласа. Тая была ўся запруджана народам. Відовішча было надзвычай маляўнічае: сотні бел-чырвона-белых сцягоў, транспаранты, плакаты, гербы розных гарадоў, стужкі, група студэнтаў з мастацкай акадэміі, апранутых у балахоны і процівагазы. Людзі сабраліся, каб сказаць "Не!" анексіі Беларусі Расіяй і прэзідэнцкаму свавольству. Але выхад з плошчы на праспект быў перакрыты міліцыяй. Упоперак дарогі былі пастаўлены нават некалькі міліцэйскіх легкавікоў. Дэманстрацыя была выключна мірная, але на Чарнобыльскі Шлях прыехалі з дзясятак гарачых украінскіх хлопцаў. Яны, напрактыкаваныя змагацца з экіпіраванымі міліцыянтамі, голымі рукамі пры падтрымцы іншых удзельнікаў узламалі міліцэйскі завал, які перакрываў праспект. Распаленыя дэманстранты кульнулі адзін з легкавікоў, які перагароджваў шлях. Міліцыянты спрабавалі ўтрымаць грамаду, замільгалі дубінкі, але іх лёгка адсунулі, і людская маса паваліла далей.

Там знаходзіўся і я. Я, наколькі памятаю, не быў гэтым разам ні заяўнікам, ні арганізатарам і не быў у месцы прарыву міліцэйскага кардона ў першых радах, а апынуўся каля міліцэйскіх аўтамабіляў, калі яны ўжо былі перакуленыя. Прайшоўшы трохі па праспекце разам з людзьмі, я ўбачыў свайго кума, беларускага літаратара Язэпа Янушкевіча, які бегаў ад аднаго міліцыянта да другога і спрабаваў утрымаць іх: "Хлопцы! Хлопцы!" А хлопцы, самі страшэнна напалоханыя, махалі сваімі гумовымі дручкамі і мясілі людзей. Я быў схапіў адзін такі ўзняты над галавою міліцыянта дручок, рэзка таргануў яго на сябе, міліцыянт ледзь не перакуліўся. Затым людская плынь, можа, у дзесяць рук падхапіла яго і адкінула да дома.

На перасячэнні з вуліцамі Казлова і Варвашэні праспект перагароджвалі зялёныя накрытыя тэнтамі грузавікі. Дэманстранты рассунулі іх рукамі і пайшлі далей. Але вось за цыркам, за перакрыжаваннем з вуліцай Янкі Купалы, на горцы праспект быў перакрыты вялізнай гурмою міліцыянтаў з дубінкамі і шчытамі. Ісці на іх азначала ісці на адкрыты штурм. Дэманстранты спыніліся на скрыжаванні, пастаялі, пакуль падцягнуліся заднія шэрагі, а затым, ухіляючыся ад сутычак, павярнулі направа.

Дэманстранты прайшлі па вуліцы Купалы, затым павярнулі налева, на вуліцу Багдановіча. Тут проста пасярэдзіне вуліцы стаялі нечакана заспелыя грузавікі, запоўненыя спецназам. Людзі абыходзілі іх без усялякай агрэсіі. Хтосьці спрабаваў шлёгнуць вудзільнам па тэнце грузавіка, яго адразу спынілі: "Яны ж не вінаватыя!" Калі дэманстранты прайшлі мост праз Свіслач, міліцыя з дубінкамі зноў атакавала людзей, збягаючы яшчэ з гары Верхняга горада. Ізноў завязаліся дробныя сутычкі.

Мітынг прайшоў каля Палаца спорту.

Увечары міліцыя спрабавала штурмаваць памяшканне Управы БНФ, шукаючы Зянона Пазьняка. Ён выйшаў праз другія дзверы ва ўнутраны дворык, сеў у машыну і з'ехаў незаўважаным. Апоўначы па Мінску прайшлі арышты кіраўніцтва БНФ. Былі арыштаваны амаль усе намеснікі старшыні і сакратары. Засталіся толькі мы з Анатолем Крываротам. Памятаю тое ўнутранае напружанне, якое было ў мяне на наступны дзень. Мы сабралі рэштку Управы ў арцы дома на праспекце Скарыны, насупраць Акадэміі міліцыі, вёў лятучае пасяджэнне я. І галоўным пытаннем было — што рабіць у бліжэйшыя дні? Мы адразу ж пачалі збіраць звесткі пра арыштаваных. Было цяжка, бо міліцыя нічога не паведамляла пра затрыманых, панавала атмасфера разгубленасці.

Затым у прэсе з'явілася інфармацыя з афіцыйных крыніц пра тое, што распачата крымінальная справа, пералічваліся прозвішчы арганізатараў "масавых беспарадкаў", патэнцыяльных падазроных, сярод якіх было і маё прозвішча. Ніякага страху не было. Я нават і ў думках не ўяўляў сабе, што можна з'ехаць куды-небудзь за мяжу і перачакаць там ці папрасіць палітычнага прытулку. Гэта быў не мой шлях.

Але было зразумела, што ў нашым жыцці і ў гісторыі Беларусі пачаўся новы перыяд, перыяд цяжкай і доўгай, зацятай барацьбы за незалежнасць, дэмакратыю і правы чалавека. Цягам сямі гадоў, з Дзядоў 88-га года, улады асцерагаліся ўжываць гвалт да мірных дэманстрантаў. Як высветлілася, было арыштавана каля двухсот чалавек, мастаку Аляксею Марачкіну, які нёс абраз Маці Божай Чарнобыльскай, ударам дубінкі ледзь не выбілі вока. Гэта быў жорсткі, бязлітасны, цынічны гвалт. Для мяне стала відавочным, што наперадзе нас чакае шмат людскога цярпення і шмат ахвяр.

Тады і выспела ў мяне думка пра стварэнне праваабарончай арганізацыі, якая дапамагала б ахвярам палітычных рэпрэсій, бо вельмі важна, каб у часы рэпрэсій і пераследу людзі не заставаліся сам-насам з бяздушнай машынай гвалту. Так, з першай акцыі дапамогі пацярпелым за ўдзел у Чарнобыльскім Шляху распачаў сваю працу Праваабарончы цэнтр "Вясна".

Праз тры дні пасля дэманстрацыі выйшлі на свабоду з ІЧУ Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч. А праз нейкі час мяне ў пракуратуру выклікаў следчы і паведаміў, што па справе аб масавых беспарадках 26 красавіка ўзбуджана крымінальная справа, па якой ён хоча дапытаць мяне ў якасці сведкі. Яго цікавіла мая роля як удзельніка і арганізатара акцыі. На ўсе пытанні я адказваў адмоўна ці няпэўна: не памятаю, не магу дакладна сказаць, не ўпэўнены. Следчы бойка адклацваў двума пальцамі па гузіках друкавальнай машынкі, запісваючы свае пытанні і мае адказы. А затым ён паказаў мне два невялікія чорна-белыя здымкі, уклееныя ў тоўсты следчы том, дзе я стаяў каля перакуленых міліцэйскіх машын з малітоўна складзенымі ад здзіўлення рукамі.

"Вы ўдзельнічалі ў сутычках?" — спытаўся следчы. "Ды не", — адказаў я. "А гэта вы?" — удакладніў ён. "Не ўпэўнены, — паўтарыў я. — Можа, так, а мо і не..." Дзякуй Богу, болей ніякіх здымкаў у справе не было.

Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык яшчэ сядзелі на Валадарцы і трымалі галадоўку. Было зразумела, што калі ўлады захочуць зладзіць паказальны працэс над актывістамі апазіцыі, тады на лаву падсудных да іх могуць далучыць і іншых. Але, кажуць, званок Ельцына Лукашэнку з просьбай спыніць ціск даў станоўчы вынік. Праз тры тыдні пасля затрымання Хадыка і Сіўчык былі адпушчаны, а крымінальная справа, па ўсім відаць, была спынена, бо ні сядзельцаў, ні сведкаў па ёй болей ніхто не турбаваў.

Калі б мне хто тады сказаў, што гэты перыяд няспыннага супраціву, незлічоных грамадскіх ахвяр, зламаных лёсаў працягнецца сямнаццаць, а мо і болей гадоў, я б нізашто ў гэта не паверыў. Але ж, калі ўрэшце сітуацыя ў нас зменіцца на лепшае, хто тады асмеліцца сказаць, што незалежнасць краіны, грамадскія і палітычныя правы і свабоды дасталіся беларусам задарма? Цяпер ужо ніхто. Ніхто.

РЕБУС

# Почему некоторые лекарства подорожали в 10 раз?

В адрес нашей газеты пришло письмо от читателя из Минска Леонида Ходана, в котором он задает вопрос: почему в течение месяца лекарственный препарат "Торвакард" подорожал в 10 раз? В декабре прошлого года он покупал упаковку "Торвакарда" за 8150 рублей, а в январе в той же аптеке препарат стоил уже 78.900 рублей!

Согласитесь, было чему удивляться и сокрушаться: после перенесенного пенсионером инфаркта врач рекомендовал ему принимать именно этот словацкий препарат, а пенсия у Ходана настолько не выросла.

Поскольку в последнее время редакция получает немало писем читателей, в которых они высказывают беспокойство по поводу роста цен на лекарства, мы решили узнать компетентное мнение о ситуации с ценами на таблетки и микстуры Министерства здравоохранения и направили туда запрос, приложив копию письма читателя Ходана.



Ответ, если честно, удивил.

Замминистра здравоохранения В.Шевчук и редакции, и читателю пояснил, что рост цен в белорусских рублях на импортируемые лекарственные средства, реализуемые в Республике Беларусь, связан с девальвацией белорусского рубля. Словацкий препарат "Торвакард", который наш читатель купил в декабре прошлого года в столичной аптеке за 8150 рублей, был из партии лекарственных средств, розничная цена на которые формировалась еще *"по специальной конкурсной цене 2010 года" "с применением курса евро, действовавшего в данный период"*, и поступил в аптеки "Белфармации" в июне 2011 года. *"В декабре 2011 года последняя упаковка из данной поставки была продана Вам аптекой №74 г.Минска"*, — сообщил нашему читателю чиновник.

В январе 2012 года Леониду Ходану в аптеке предложили "Торвакард" уже по новой цене 78.900 рублей, которая формировалась исходя из нынешнего курса евро. Но что получается: если исходить из цены лекарства, то получается, что белорусский рубль за 2 года обесценился по отношению к евро в 10 раз! Но это не совсем так. В 2010 году курс евро к белорусскому рублю был в пределах 3800—4000 рублей за 1 евро. Сейчас евро подорожал до 10.800. Но не в 10 же раз! Откуда тогда такая цена? Ведь если перевести стоимость "Товакарда" в евро, то получается, что в 2010 году на белорусском рынке он стоил приблизительно 2 евро, а сегодня — 7 евро!

Министерство здравоохранения также проинформировало нашего читателя, что со второго полугодия 2011 года словацкий препарат "Торвакард" закупается в незначительных количествах, поскольку в Беларуси в 2011 году освоен выпуск его аналога — лекарственного средства "Липромак-ЛФ". Стоит белорусский аналог 27.300 рублей. Возможно, такой рост цен на импортный препарат — это своеобразная защита отечественного производителя? Потому что три других зарубежных препарата, действие которых аналогично действию "Торвакарда", стоят тоже немало. Препарат "Тулип" производства Словении государственные аптеки предлагают по 58.650 рублей, индийские "Липимакс" и "Корат" — по 47.550 и 60.700 рублей соответственно.

Или 10-кратное повышение цены — это единичный случай?

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

### *Из официального ответа Министерства здравоохранения*

"Несмотря на наличие объективных экономических факторов роста цен на зарубежные и отечественные лекарственные средства, в сложившейся экономической ситуации Министерством здравоохранения принимаются системные меры по сдерживанию роста цен и обеспечению доступности лекарств для всех слоев населения, — *утверждается в официальном письме Министерства здравоохранения.* — При проведении Министерством здравоохранения конкурсных процедур закупок лекарственных средств осуществляется анализ и сопоставление действующих цен производителя на рынках сопредельных стран и Республики Беларусь, что позволяет оптимизировать цены, объемы и сроки поставок.

По инициативе Министерства здравоохранения в 2011 году были проведены республиканские совещания с участием субъектов хозяйствования всех форм собственности по вопросам насыщения фармацевтического рынка республики лекарственными средствами отечественного производства, импортозамещению и мерам по сдерживанию роста цен на лекарственные средства. По их результатам были повторно подписаны Меморандум и соглашения между Министерством здравоохранения, зарубежными и отечественными производителями и аптечными сетями о сдерживании роста цен на лекарственные средства производителями, а также в аптеках всех форм собственности.

Минздравом также осуществляется мониторинг розничных цен и ценообразования (применения оптовых и торговых надбавок) в аптеках всех форм собственности по наименованиям, широко востребованным населением.

Результаты мониторингов показывают, что в соответствии с достигнутыми договоренностями в оптовом звене при формировании цен на некоторые зарубежные лекарственные средства отечественные дистрибьюторы применяют значительное снижение разрешенной оптовой надбавки (в ряде случаев до 0% рентабельности), что позволило снизить розничные цены на 5—6%. Кроме того, при формировании розничных цен на лекарства в 20% аптек негосударственной формы собственности применяется снижение установленных законодательством предельных торговых надбавок на 2—10 процентных пунктов по отдельным наименованиям лекарственных средств, широко востребованных населением.

Нарушений действующего законодательства о ценообразовании не установлено".

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

## *Если вы очень хотите помочь белорусскому народу...*

### *(Предложение руководству Евросоюза)*

Уважаемые господа!

Если вы очень хотите помочь белорусскому народу, сделайте следующее.

Откройте границу для всех граждан Республики Беларусь или установите чисто символическую пошлину в 1 евро, а не 60...

Организуйте туристические поездки по всем странам Евросоюза за ваш счет.

Дайте возможность нашим гражданам пообщаться с вашими гражданами, что называется, на бытовом уровне и посмотреть, в каких условиях они работают и живут. Сколько денег они получают за труды свои праведные и сколько они платят за свое житье-бытье. Сколько денег у них остается на досуг: музеи, театры, кино, турпоездки, санатории, лечение и так далее.

Отмените запреты на въезд всех наших чиновников, причастных к репрессиям наших граждан. А после того, как они решат все свои вопросы, оставьте их у вас до тех пор, пока не будут освобождены у нас все узники совести и политзаключенные.

Это избавит вас от принятия санкций против Республики Беларусь и сподвигнет белорусское руководство быстрее решать вопросы по освобождению политзаключенных.

Дайте возможность чиновникам, что называется, на собственной шкуре испытать, что такое тюрьма. В тюрьме проведите им экскурсию, чтобы они знали, как в цивилизованном мире относятся к заключенным независимо от того, за что они осуждены, и в каких условиях они должны содержаться.

Кстати, это уже нужно было начать делать с нашего министра внутренних дел, который недавно посещал Францию.

Это будет намного дешевле, чем содержать "Белсат" и наших беженцев, а результат будет более ощутимый.

**С уважением —**

**Григорий ГЛИНСКИЙ,**
**пенсионер.**

ВІНШУЮ!

# Здароўя, моцы і свабоды!

Ведаю, што 26 лютага — Дзень народзінаў у аднаго з асуджаных анархістаў Яўгена Васьковіча. Але, на жаль, не ведаю, як павіншаваць хлопца, не ведаю, у якой турме ён зараз. Таму хачу даслаць словы падтрымкі праз газету.

Бунт супраць КДБ, які ўчынілі бабруйскія анархісты, спрабуючы падпаліць дзверы раённай управы, мне цалкам зразумелы. Я не ведаю, ці сапраўды хлопцы вінаватыя альбо на іх "павесілі" нешта залішняе, але ні ў якім разе нельга мірыцца з тым, што за спробу папсаваць дзверы чалавек можа атрымаць такі вялікі тэрмін зняволення — сем гадоў калоніі. Такія пакаранні не за кожнае забойства даюць, а тут...

Зразумела, што хлопцаў проста ламалі. Каб не мелі сваіх думак, каб не мелі сваіх поглядаў, каб не асмельваліся дэманстраваць нязгоду. Вельмі балюча, але і вельмі радасна разумець, што ёсць у нашай краіне нязломная моладзь.

Яўгену Васьковічу толькі 22 гады, а па лёсе ўжо выпалі такія выпрабаванні, якія патрабуюць моцы духу! Менавіта такія людзі, як Яўген, менавіта нашы палітвязні ратуюць нашу нацыю ад сораму.

Шчасця табе, Яўген! Здароўя, моцы і свабоды!

**Мікалай РАГІНСКІ.**

*Мінск.*

## АД РЭДАКЦЫІ

Па шматлікіх просьбах нашых чытачоў зноў друкуем адрасы людзей, якіх міжнародная супольнасць прызнае беларускімі палітвязнямі.

**Фігуранты "спраў анархістаў"**

Яўген Васьковіч. 212011, г.Магілёў, вул.Крупскай, 99А. Турма №4.

Мікалай Дзядок. 213105, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія №15.

Аляксандр Францкевіч. 225295, Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, "Воўчыя норы", папраўчая калонія №22.

Ігар Аліневіч. 211440, Віцебская вобл., г.Навапалацк, вул.Тэхнічная, 8, папраўчая калонія №10.

**Асуджаныя за "Плошчу"**

Андрэй Саннікаў. 211300, Віцебская вобл., Віцебскі раён, п.Віцьба, папраўчая калонія №3.

Мікола Статкевіч. 212011, г.Магілёў, вул.Крупскай, 99А, турма №4.

Зміцер Бандарэнка. 213105, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія №15.

Павел Севярынец. 225143, вёска Куплін, Пружанскі раён.

**Асуджаныя "па сукупнасці здзейсненага"**

Зміцер Дашкевіч. 211791, Віцебская вобласць, г.Глыбокае, вул.Савецкая, 205, папраўчая калонія №13.

Эдуард Лобаў. 225295, Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, "Воўчыя норы", а/с 20, папраўчая калонія №22.

